# Са святам вясны і прыгажосці, шаноўныя жанчыны!

Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Выдаецца са снежня 1994 года

№ 10 (725) 6 сакавіка 2014 года.
Кошт свабодны.

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



Масленіца! *Фота Ул. Скрабатуна.*



## Сальда знешняга гандлю таварамі Беларусі склала мінус 56 млн даляраў

Сальда знешняга гандлю таварамі Беларусі за студзень склалася адмоўным, склаўшы 56 млн даляраў супраць мінус 174,1 млн даляраў у студзені 2013 года. Пра гэта сведчаць дадзеныя Нацыянальнага статыстычнага камітэта. Знешнегандлёвы тавараабарот таварамі за студзень склаў 5,54 млрд даляраў (зніжэнне на 10,4% у параўнанні з студзенем 2013 года).

Экспарт за год скараціўся на 8,5% да 2,74 млрд даляраў, імпарт - на 11,7% да 2,8 млрд даляраў.

Экспарт тавараў у краіны СНД знізіўся на 7% да 1,45 млрд даляраў, імпарт - на 14% да 1,77 млрд даляраў. Тавараабарот з краінамі СНД паменшыўся на 11% да 3,22 млрд даляраў. Адмоўнае сальда склала 323,4 млн даляраў. Экспарт тавараў у Расію знізіўся на 8,4% да 1,05 млрд даляраў, імпарт - на 12,1% да 1,66 млрд даляраў, тавараабарот - на 10,7% да 2,71 млрд даляраў. Сальда склалася адмоўным у памеры 615,1 млн даляраў.

Экспарт у краіны Еўрасаюза скараціўся на 7,8% да 1,03 млрд даляраў, імпарт на 4,4% да 576,1 млн даляраў, тавараабарот - на 6,6% да 1,6 млрд даляраў. Сальда склалася станоўчым і склала 449,5 млн даляраў (знізілася на 60,2 млн даляраў).

***http://telegraf.by***

Гарадоцкі раён

# Прыходзіцца эканоміць

■ Станіслаў Раманчук

**Усе намечаныя ў аблвыканкаме днямі мерапрыемствы прыйшлося скарэктыраваць, калі сюды нечакана прыбыў намеснік прэм'ер-міністра Беларусі па АПК Міхаіл Русы.**

Ён правёў чарговае пасяджэнне аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні фестываля-ярмаркі "Дажынкі-2014", а потым у суправаджэнні прадстаўнікоў зацікаўленых структур агледзеў ход работ на шматлікіх аб'ектах у Гарадку. І як стала зразумела, будучай сталіцы хлебаробскага свята ў значнай ступені не пашанцавала, у адрозненне ад іншых гарадоў, прымаўшых у сябе "Дажынкі". Галоўнае, што з намечаных раней затрат на абнаўленне райцэнтра ў суме 2,5 трлн. рублёў, з-за праблем у эканоміцы з дзяржбюджэту і з абласнога бюджэту горад выдзеліў толькі 435 мльярдаў. У выніку такой аптымізацыі расходаў на многіх аб'ектах не будзе ранейшай пампезнасці. Узніклі нават спрэчкі, ці варта ў Гарадку будаваць дарагакаштуючы ФАК з басейнам і лыжаролерную трасу для біятланістаў. У выніку вырашылі дадатковыя расходы размеркаваць паміж галіновымі міністэрствамі і ведамствамі, максімальна задзейнічаць сродкі спонсараў. У прыватнасці, Мінсельгасхарч Беларусі дапаможа мадэрнізаваць карпусы і інтэрнат мясцовага аграрна-тэхнічнага каледжа. Міністэрства культуры адкрые абноўлены 3D кінатэатр, Міністэрства аховы здароўя дасць сродкі на мадэрнізацыю бальніцы і на новае абсталяванне. Між тым на цэнтральнай плошчы ўжо выканана палова намечаных работ, а самым складаным застаецца пытанне, што рабіць з рынкам у райцэнтры, які нагадвае захудалую барахолку.

Віцебская вобласць

# Зусім не бедныя кандыдаты

■ Чэслаў Якубовіч

**Як і чакалася, на прадстаячых мясцовых выбарах у краіне насельніцтву выбіраць дэпутатаў Саветаў пярвічнага ўзроўню не будзе з каго, бо яны пройдуць практычна на безальтэрнатыўнай аснове.**

Нават у райсаветы дэпутатаў па Віцебшчыне, за рэдкім выключэннем, няма ніякай канкурэнцыі пасля завяршэння рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты. Усяго ў Прыдзвінні зарэгістравалі 3453 кандыдаты ў мясцовыя дэпутаты, а 62 прэтэндэнтам адмовілі. У такой сітуацыі мала цікавай стала агітацыйная кампанія. Аднак вось конкурс у сярэднім 2,08 чалавека на месца ўтварыўся ў аблсавет у Віцебску, дзе будзе выбар і пры вызначэнні новага складу гарсавета дэпутатаў, паколькі на 56 мандатаў прэтэндуе 106 чалавек. Калі сталі з'яўляцца іх спісы, то людзям сталі нарэшце вядомы сумы даходаў тых, хто кіруе намі. Па закону ўсе прэтэндэнты прадставілі дэкларацыі аб даходах і высветлілася, што асабліва "слугі народныя" зусім людзі не бедныя, бо сярэднямесячны даход дзяржслужачых, дырэктараў прадпрыемстваў і іншых "праўладных" кандыдатаў перавышаў летась 16 млн. рублёў. У начальнікаў рознага ўзроўню маюцца ва ўласнасці 46 шыкоўных аўто, а ў шасцярых з іх – нават па дзве кватэры. Адзін з кандытаў, начальнік гарваенкамата задэкларараваў 4 асабістыя аўтамабілі. А вось у альтэрнатыўных кандыдатаў заробкі і даходы прыкметна меншыя, яны зарабляюць крыху больш 3 млн. рублёў штомесяц. Даходы пенсіянераў-кандыдатаў яшчэ меншыя, а некалькі чалавек з апазіцыйных партый працы і даходаў не мелі. Да сярэдзіны сакавіка тых, хто хоча трапіць у аблсавет дэпутатаў, можна пачуць у эфіры абласнога радыё пасля 18 гадзін.

Пастаўскі раён

# Яшчэ адна суперферма

■ Кастусь Александровіч

**Яшчэ не на адным дзясятку ферм вобласці працаваць жывёлаводам няпроста, бо там дояць кароў у вядро, не механізаваны і іншыя працаёмкія працэсы.**

Засталіся такія тэхналогіі пазаўчарашняга дня і ў адстаючых гаспадарках Пастаўскага раёна, хоць тут правялі мадэрнізацыю 13 ферм. Сёлета таксама ў рэгіёне запрацавала і сучасная рабатызаваная ферма "Коўзаны" ў праслаўленым сельгаспрадпрыемстве "Навасёлкі-Лучай", за савецкім часам быў знакаміты калгас імя Суворава. Праўда, пакуль у гэтай гаспадарцы дзейнічае толькі адна чарга пускавога комплексу і працуюць першыя 6 робатаў, але актыўна вядуцца работы па давядзенні да ладу да канца года і другога памяшкання па доглядзе і ўтрыманні 450 галоў статку. Дарэчы, такая суперферма з дояраміробатамі на Пастаўшчыне стала другой па ліку, а падобны комплекс ААТ "Хацілы" стаў вядучым у вобласці. У раёне пераканаліся, што мець справу з такімі незвычайнымі доярамі, робатамі-маніпулятарамі – вельмі выгадна. Гэта тэхніка так даглядае карову і яе вымя, што надоі становяцца еўрапейскімі, а малако атрымоўваецца выключна класу "экстра". На такім шляху пайшлі і ў Навасёлках, а спачатку адну з ферм у Лучаі яшчэ раней аснасцілі камп'ютарнай тэхнікай кантролю працэсаў дойкі. Акрамя двух ферм з робатамі ў раёне ў гэтым годзе запрацуе ферма з сучаснай даільнай залай у трэцяй па ліку моцнай гаспадарцы "Курaполле-агра".

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 06.03.14 | | | | Пятніца 07.03.14 | | | | Субота 08.03.14 | | | | Нядзеля 09.03.14 | | | | Пн.10.03.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +1 | 0 | +4 | +3 | +2 | +1 | +5 | +3 | +3 | +3 | +6 | +3 | 0 | -1 | +7 | +3 | +2 | +1 | +10 |
| Ціск | 754 | 755 | 756 | 757 | 759 | 760 | 760 | 760 | 759 | 758 | 757 | 759 | 761 | 763 | 763 | 762 | 760 | 757 | 754 |
| Вільготнасць | 87 | 100 | 90 | 88 | 87 | 100 | 81 | 81 | 86 | 100 | 79 | 74 | 77 | 91 | 53 | 69 | 70 | 78 | 42 |
| Вецер м/сек | 1 С-В | 1 С-В | 1 С | 2 С | 1 С | 1 Ю-В | 2 Ю-В | 1 Ю-З | 3 Ю | 5 Ю-З | 8 З | 5 С-З | 5 С-З | 4 З | 5 З | 5 З | 5 Ю-З | 6 Ю-З | 8 Ю-З |

# Аб самым надзённым

## КОШТАМ ВЕЛЬМІ ВЯЛІКАЙ КРЫВІ ЎКРАІНЦЫ АДХІЛІЛІ АД УЛАДЫ СВАІХ КАРУМПАВАНЫХ І АМАРАЛЬНЫХ ЧЫНОЎНІКАЎ



■ Аляксандр Цішкевіч

**На 25 мая прызначаны ва Украіне датэрміновыя прэзідэнцкія выбары. Самае галоўнае, што суседняя краіна ўжо ніколі не будзе такой, як дагэтуль. Украінцы цаной вялікай мужнасці, адвагі і волі да перамен адстаялі таксама свой еўрапейскі выбар.**

Імклівыя і драматычныя падзеі вострага супрацьстаяння ва Украіне нікога з нас не маглі пакінуць абыякавым. Роўна тры месяцы там працягваліся масавыя народныя хваляванні, якія ледзь не перараслі ў паўнамаштабную грамадзянскую вайну. Кардынальныя змены і нават крах за тры дні сапраўднай крывавай рэвалюцыі з сотнямі ахвяр і параненых рэжыму Віктара Януковіча парадавалі адных і ўстрывожылі пэўныя групы ў беларускім грамадстве. Гэтыя падзеі таксама выклікалі непрыхаваную злобу з боку Крамля, імперскі дух якога так і не вывертрыўся дагэтуль. Мяркуючы па шматлікіх размовах з людзьмі, усё ж зазначу, што вельмі многія і нашы суайчыннікі замбіраваныя дзяржаўнымі СМІ і яшчэ прадажнымі і хлусілівымі расійскімі тэлеканаламі.

Нашы людзі, як падаецца, у большасці сваёй не разбіраюцца глыбока ў складаных унутрыпалітычных і эканамічных працэсах у Кіеве і ва ўкраінскіх рэгіёнах, якім агрэсіўная маскоўская прапаганда пагардліва дала сваю ацэнку – гэта была "нацыяналістычная рэвалюцыя". Аднак і ў галовах значнай колькасці беларусаў-саўкоў заселі такія думкі, што акружэнне былога ўкраінскага лідара – злодзеі, аднак і на Майдане завяліся быццам "праплачаныя, а яшчэ і "абкураныя наркотыкамі" розныя там "экстрэмісты, ледзь не фашысты і яшчэ агрэсіўныя бэндэраўцы". Ва ўсякім разе так падаюць гэтыя падзеі з экранаў розныя айчынныя аверкавы і крамлёўскія кісялёўцы. З гэтай нагоды, напрыклад, абурылася нават Украінская царква Маскоўскага патрыярхату, бо нельга так зневажаць цэлы народ.

Аднак ход гісторыі нікому не дадзена супыніць, хоць расійскае МЗС запатрабавала вярнуць палітычнага банкрота В. Януковіча да ўлады. Як падкрэсліваюць палітолагі, ён увесь час марудзіў, вагаўся, а на правядзенне датэрміновых выбараў і на вяртанне да палажэнняў Канстытуцыі 2004 года згадзіўся, калі пралілася вялікая кроў. Усё б у суседзяў было добра і спакойна, каб улада была мудрэйшай і пасля першых смерцяў на Майдане ў канцы студзеня пайшла на выбары і на канстытуцыйныя змены. Нават 18 лютага захоўвалася мірная перспектыва выхаду з крызісу. Пратэстоўцы выканалі ўсе ўмовы перамір'я, разабралі барыкады, вызвалілі адміністрацыйныя будынкі і ішлі калонай у 20 тысяч чалавек да Рады.

На жаль, улада падманула людзей, пасяджэнне парламента закрылі хутка, праекты пастаноў аб абмежаванні паўнамоцтваў прэзідэнта былі адхіленыя. Не стаў В. Януковіч выстаўляць кандыдатуру новага прэм'ера, а зрабіў стаўку на грубую сілу. Як далей разгортваліся падзеі ў Кіеве, добра вядома. Нават БТРы кінулі на людзей, распачалі быццам контртэрарыстычную аперацыю, а 20 лютага прыбеглі да паслуг, хутчэй усяго, крымскіх снайпераў. З боку пратэстуючых таксама з'явіліся ўзброеныя мітынгоўцы. Былая ўкраінская ўлада зрабіла свой выбар і бясслаўна ўсё прайграла, вымушана была ўцякаць з сорамам.

Перад гэтым ўжо намеціўся раскол у правячай Партыі рэгіёнаў, 238 дэпутатаў прынялі патрэбную пастанову і ўзброеным спецназаўцам прыйшлося пакінуць Кіеў. Начальнік Генштаба ўкраінскай арміі адмовіўся выконваць загад аб падаўленні пратэстаў, быў адпраўлены ў адстаўку. Былы ўкраінскі лідар спадзяваўся толькі на заступніцтва свайго крамлёўскага калегі, але той быў заняты Алімпіядай у Сочы, іншымі праблемамі. З іншага боку ў пераможны працэс актыўна ўключыліся ЕС і ЗША і дні правячага рэжыму былі на зыходзе.

Цяпер нават наша беларуская прапаганда вымушана прызнаць, што большасць украінскага народа, даведзенага рэжымам да вострага эканамічнага крызісу і беднасці, падтрымлівае Майдан. На 25 мая прызначаны ва Украіне датэрміновыя прэзідэнцкія выбары. Самае галоўнае, што суседняя краіна ўжо ніколі не будзе такой, як дагэтуль. Украінцы цаной вялікай мужнасці, адвагі і волі да перамен адстаялі таксама свой еўрапейскі выбар. Канешне, цяпер Крэмль усяляк будзе падайграваць сепаратысцкія настроі, спекуляваць на праблеме рускай мовы і быццам прыцясненні і нават пагрозе жыцця сваім суайчыннікам.

Вось толькі свет проста не дасць рускім пасылаць свае танкі з дэсантам у Крым, альбо ў Харкаўскую вобласць. І таму ўкраінцаў чакае лепшая еўрапейская будучыня для іх дзяцей і ўнукаў, у іх хутчэй, чым у нас, пойдуць многія перамены да лепшага, там стануць яшчэ болей паважаць правы простых людзей. Такі шанц, хоць і вельмі малы, ёсць і ў нас. Існуе і іншая альтэрнатыва, бо нікуды не дзелася пагроза таго, што нас беларусаў зноў не захочуць у Маскве бачыць адным новым Паўночна-Заходнім краем з шасці губерній-абласцей.

## Дзень за днём

**У суседняй Украіне адбылася змена аўтарытарнай улады. І ў студзені сёлета аб'ёмы вытворчасці ў краіне знізіліся на 7,1 %. Урад РБ дазволіў прадпрыемствам у асобных выпадках прадаваць іх прадукцыю ніжэй сабекошту. Не па кішэні стала будаўніцтва другой аб'язной дарогі вакол Мінска. У Беларусі вясной летась налічвалася 392 тысячы непрыватызаваных кватэр. Многія беларусы цяпер у паніцы, бо не маюць грошай выкупіць сваё жыллё да сярэдзіны 2016 года. Прыбытак айчынных прадпрыемстваў у мінулым годзе зменшыўся амаль на 41 %. З-за афрыканскай чумы свіней у Беларусі практычна поўнасцю знішчылі дзікіх кабаноў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Украіна.** Праз 3 месяцы вострага супрацьстаяння на Майдане ненавісны многімі правячы рэжым рухнуў, новая ўлада паабяцала прадоўжыць курс краіны на еўраінтэграцыю.

**Егіпет.** Камандуючы арміяй і фактычны кіраўнік краіны Абдэль аль Сісі правёў у Маскве перамовы і выбраў курс на збліжэнне з Расіяй, хутка пройдуць сумесныя манеўры войск.

**Украіна.** Экс-прэзідэнт В. Януковіч з "сям'ёй" уцягнулі краіну ў эканамічны крызіс, знешні доўг вырас да 134 млрд. $, нават фракцыя Партыі рэгіёнаў абвінавacіла рэжым.

**Расія.** Адзінай валюты, як заявіў дарадца прэзідэнта РФ С. Глаз'еў, у рамках Мытнага саюза з Казахстанам і Беларуссю пакуль не будзе, у краінах розныя падаткі і законы.

**ЗША.** Палата прадстаўнікоў кангрэса зацвердзіла павышэнне ліміта дзяржаўнага доўгу краіны, узровень беспрацоўя знізіўся да 6,6 %, студзень прынёс 113 тыс. рабочых месцаў.

**Бельгія.** Краіна першай у свеце легалізавала і дзіцячую эўтаназію без абмежаванняў на ўзрост невылечна хворых дзетак, штогод 1,5 тысячы бельгійцаў так пакідаюць свет.

**Літва.** Мытны дэпартамент пачаў барацьбу з нелегальным увозам паліва з Беларусі і Расіі, вадзіцелі фур пачалі запаўняць дэкларацыі аб наяўнасці гаручага ў баках машын.

**Казахстан.** У магазінах краіны істотна выраслі цэны на імпартныя тавары пасля нечаканай дэвальвацыі тэнге, казахі аслабілі нацвалюту для падтрымкі сваіх вытворцаў.

**ЗША.** Аўтамабільная кампанія GM адклікала 780 тысяч сваіх машын выпуску 2005-2007 гадоў, прададзеных у Паўночнай Амерыцы з-за няспраўнасці замка запальвання.

**Таджыкістан.** Урад краіны абавязаў школьнікаў і студэнтаў да мая вучыцца па 7 дзён у тыдзень з-за працяглых канікул зімой, калі не ацяпляліся многія школы і ВНУ.

**Карэя.** Сусветны гігант электронікі Samsung распрацаваў тэхналогіі для выпуску гібкіх дысплеяў Galaxy і гібкіх арганічных светадыёдаў, на чарзе – складныя тэлефоны.

**ЗША.** Здымкі з арбітальных спутнікаў NASA зноў пацвердзілі, што на Марсе ёсць салёная вада, праўда толькі на некаторых частках яго паверхні з даволі халодным кліматам.

**Фінляндыя.** Краіна ўзначаліла штогадовы рэйтынг свабоды прэсы са 180 дзяржаў свету, Беларусь аказалася зноў у канцы спісу у кампаніі з Самалі, Сірыяй, КНДР і Кубай.

**Расія.** Звольненаму пад ціскам Беларусі эксгендырэктару "Уралкалія" У.Баумгартнеру прадоўжылі дамашні арышт і выплацілі 12 млн. $ за скасаванне датэрміновa кантракту.

**Данія**. Вялікі негатыўны рэзананс у грамадстве па ўсёй Еўропе выклікалі рашэнні забіць двух жырафаў у заапарках Капенгагена ў присутнасці наведвальнікаў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Правальнымі назваў вынікі прыватызацыі прадпрыемстваў у 2013 годзе глава Дзяржкаммаёмасці Беларусі Г. Кузняцоў, летась прадалі толькі 3 невялікія ААТ з 7.

**Смалявічы.** Паязды са сталіцы да Нацыянальнага аэрапорта "Мінск" міністр транспарту і камунікацый РБ А. Сівак паабяцаў пусціць да 7 лістапада на сучасных дызель-цягніках.

**Мазыр.** Урад Беларусі ацаніў сваю долю ў мясцовым НПЗ у суме 4 мільярда. долараў, што ў 8 разоў болей цяперашняга балансавага кошту завода, яго хоча купіць кампанія "Раснафта".

**Слонім.** Следчы камітэт затрымаў дырэктара мясцовай камвольна-прадзільнай фабрыкі разам з главой канцэрна "Беллегпрам" па крымінальнай справе атрымання хабару.

**Мінск.** Экс-глава Нацбанка РБ С. Багданкевіч заявіў, што хворую беларускую эканоміку нельга вылечыць, яе неабходна змяніць, трэба ісці на Захад, бо там тэхналогіі і інвестары.

**Барысаў.** На мясцовым заводзе агрэгатаў выйшаў загад аб аптымізацыі штату на 200 працуючых, скароцяць частку ІТР, іншым прапануюць перавод на іншыя вытворчасці.

**Мачулішчы.** Міністэрства абароны Беларусі вырашыла прадаць зношаную на 70 % авіятэхніку 50-й змешанай авіябазы – два самалёты АН-26 выпуску 1975 і 1978 гадоў.

**Бабруйск.** Віцэ-прэм'ер урада РБ М. Русы прыгразіў галандскай кампаніі Heineken нацыяналізаваць яе стратны піўзавод "Баброў", які не плоціць падаткі ў бюджэт.

**Гомель.** У сувязі вялікім пасажырскім патокам Беларуская чыгунка прызначыла па нядзелях дадатковы экспрэсцягнік на Мінск, які следуе без прыпынкаў да сталіцы за 3,5 гадзіны.

**Барысаў.** Мясцовы аўтазавод БелДЖы ў другой палове месяца пачне зборку самага таннага бюджэтнага аўтамабіля красовера LC Cross коштам 10-11 тысяч долараў.

**Чачэрск.** Міліцыя знайшла ўнутры тахты схаваны труп нованароджанай дзяўчынкі, яе 18-гадовая маці хавала ад усіх сваю цяжарнасць і не была замужам, але трапіла ў бальніцу.

**Кобрын.** З-за кароткага замыкання ўзнік пажар у прыватным цэху па выпуску туалетнай паперы, агонь знішчыў 19 тон гатовай прадукцыі, пашкодзіў 5 станкоў, людзі ўсе засталіся жывыя.

**Мінск.** З удзелам аўтара прайшла прэзентацыя беларускай версіі новай кнігі Святланы Алексіевіч "Час Sekond-Hand. Канец чырвонага чалавека" выдавецтва "Логвінаў"

**Заслаўль.** Стары гідравузел на мясцовым водасховішчы патрабуе капрамонту, бо разбурэнне яго дамбы можа затапіць сталічны праспект Пераможцаў і нават МКАД.

**Мінск.** Новы будынак Музея Вялікай Айчыннай вайны адкрыюць падчас святкавання 70-годдзя вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў, у ім будзе 67 мульцікомплексаў.

## Збор бярозавіку ў Беларусі сёлета пачнецца рэкордна рана



■ БЕЛТА

**У сувязі з цёплым надвор'ем у паўднёвых рэгіёнах рэспублікі ўжо пачаўся рух кляновага і бярозавага соку. Спецыялісты ў галіне вядзення лясной гаспадаркі адзначаюць, што не памятаюць такіх гадоў, каб можна было прыступаць да нарыхтоўкі соку ўжо ў лютым. Затое запомніўся сезон 2013 года, калі праз познюю зіму рух соку ў бяроз пачаўся анамальна позна і вельмі хутка скончыўся.**

Сёлета ўсё склалася зусім па-іншаму. Усе лягсасы краіны аператыўна рыхтуюцца да прамысловай нарыхтоўкі бярозавага соку.

Ідзе афармленне дакументацыі, заключэнне дамоваў з прадпрыемствамі-перапрацоўшчыкамі, рыхтуецца неабходная тара і тэхніка. У найбліжэйшыя дні да нарыхтоўкі прыроднага напою прыступяць лягсасы Брэсцкай і Гомельскай абласцей. Трохі пазней да іх далучацца і іншыя гаспадаркі рэспублікі. «Аптымальная для нарыхтоўкі соку сярэднясутачная тэмпература павінная складаць 5-10 градусаў вышэй за нуль, — сказала прадстаўнік Мінлягсаса. — Пры начных замаразках рух соку спыняецца, як і пры тэмпературы, вышэйшай чым плюс 10 градусаў».

Па словах Ружэны Навіцкай, арганізацыі Мінлягсаса прымуць усе неабходныя меры для нарыхтоўкі соку ў тым аб'ёме, які неабходны для задавальнення патрэбаў перапрацоўчых камбінатаў і насельніцтва. Па магчымасці сок будзе экспартавацца. З пачаткам сезону нарыхтоўкі бярозавага соку дзяржаўная лясная ахова асаблівую ўвагу будзе надаваць ахове бярозавых гаёў і змешаных лясоў, дзе растуць саспелыя бярозы. Гэта звязана ў тым ліку з тым, што самавольная нарыхтоўка соку ў Беларусі забароненая.

Згодна з дзейнымі правіламі нарыхтоўкі другарадных лясных рэсурсаў і ажыццяўлення пабочнага карыстання, нарыхтоўваць бярозавы сок можна толькі ў перастойных і спелых лясах, прызначаных для высечак галоўнага карыстання. Аднак нарыхтоўка павінная ажыццяўляцца не больш чым за пяць гадоў да іх высечкі і спосабамі, якія не могуць нанесці шкоду дрэвам.

Для прамысловай нарыхтоўкі бярозавага соку неабходна набыць лясны білет і атрымаць дазвол ад лягсаса. Лясніцтва вызначаць канкрэтныя ўчасткі нарыхтоўкі.

Акрамя таго, у кожным лясніцтве вызначаныя ўчасткі лесу, прызначаныя для нарыхтоўкі бярозавага соку грамадзянамі для ўласных патрэб. Усе ахвочыя нарыхтаваць сок павінныя звярнуцца ў адно з лясніцтваў, дзе ім пакажуць спецыяльна адведзеныя для збору соку ўчасткі, правядуць інструктаж і пракантралююць тэхналогію падсочкі.

За парушэнне правілаў нарыхтоўкі соку прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць. Паводле Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Беларусі, нарыхтоўка соку на ахоўных прыродных тэрыторыях забароненая і цягне накладанне штрафу на грамадзян у памеры ад Br400 тыс. да 3,5 млн, на індывідуальных прадпрымальнікаў — да Br10 млн, на юрыдычных асоб — да Br50 млн.

Да тэрыторыяў, на якіх нарыхтоўка сокаў забараняецца, адносяцца гарадскія, курортныя лясы і лесапаркавыя часткі зялёных зон, палосы адводу чыгуначных і аўтамабільных дарог, іншых транспартных і камунікацыйных ліній, населеныя пункты, дэндралагічныя паркі, батанічныя сады і іншыя.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Вынікі працы АПК дрэнныя паўсюдна, як заявіў прэм'ер-міністр М. Мясніковіч, а найгоршыя – на Віцебшчыне, на вёсцы пачала адчувацца нават асуджанасць на развал.

**Наваполацк.** Главы мытных служб Беларусі, Расіі і Казахстана разгледзелі 23 пытанні на прайшоўшым пасяджэнні ў горадзе аб'яднанай калегіі дзяржаў-членаў Мытнага саюза.

**Орша.** У гарпасёлку Балбасава на нарадзе ў Мінску вырашылі стварыць буйны аптовы цэнтр для закупак тавараў прадпрымальнікамі, аналаг "Чаркізаўскага рынку" Масквы.

**Верхнядзвінск.** Супрацоўнікі бібліятэк раёна выдалі кнігу "Афганістан: 1979-1989. Выпрабаванне мужнасцю" аб земляках, якія прайшлі дарогамі неаб'яўленай вайны.

**Віцебск.** Канкурэнцыі на выбарах у мясцовыя Саветы дэпутатаў 23 сакавіка ў вобласці не будзе, сярэдні конкурс 1,1 чалавека на мандат, выключэнне - Віцебск і Наваполацк.

**Бягомль.** У старым пустуючым будынку завода "Ветразь" расійска-беларуская фірма "ДрэўЭліткамплект" адкрывае цэх па выпуску зрубаў з клеенага бруса, вокнаў і дзвярэй.

**Дуброўна.** У вёсцы Шабаны за 2 гады Асінторфскі сельсавет прабурыў і пабудаваў новую водананорную вежу артэзіянскай вады, але старыя трубы не вытрымліваюць яе ціску.

**Віцебск.** У абласным цэнтры адным доўгабудам стала меней: запрацаваў падземны пераход ад амфітэатра "Славянскага базару" да дзелавога цэнтра "Марка-сіці".

**Ушачы.** Суд раёна пакараў штрафам па 13 млн. рублёў кожнага двух вяскоўцаў-бракан'ераў з суседняга Полацкага раёна за лоўлю сеткамі рыбы на возеры Усвея.

**Паставы.** Пасля сустрэчы з роднымі ў жудасным ДТЗ на трасе Мядзел-Мінск загінулі пляменніца загадчыка аддзялення Пастаўскай ЦРБ, яе аднагадовы сын, муж і брат мужа.

**Глыбокае.** Суд раёна пакараў 9 і 10 гадамі турмы двух раней судзімых па 5 разоў яшчэ маладых мужчын за рабаванне пасярод ночы вясковых пенсіянераў і за грабеж ружжа.

**Віцебск.** Да канца года тарыф на пасажырскія гарадскія аўтаперавозкі па вобласці, як і па краіне, павысяць да 4200 рублёў за адну паездку, у Мінску талончык будзе 5 тысяч.

**Полацк.** На ўездзе ў горад у раёне перасячэння аўтадарог з'явіцца праз год буйны гандлёва-грамадскі цэнтр плошчай 20 тысяч кв. метраў з гіпермаркетам "Еўраопт".

**Шаркаўшчына.** Міністэрства культуры Беларусі прысвоіла званне ўзорнага калектыву дзіцячаму тэатру эстраднай песні "Маленькая фея" пры раённым Доме культуры.

**Ноўка.** У мясцовую СШ Віцебскага раёна ў рамках супрацоўніцтва з калегамі з Латвіі Даўгаўпілсі павет даставіў абсталяванне для лічбавай астранамічнай лабараторыі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# У 2014 годзе аб'ём бытавых паслуг у Беларусі павінен вырасці на 3,5%

**У 2014 годзе аб'ём бытавых паслуг у Беларусі павінен вырасці на 3,5% адносна 2013 года. Аб гэтым на прэс-канферэнцыі ў Мінску 27 лютага паведаміла начальнік упраўлення бытавога абслугоўвання насельніцтва Міністэрства гандлю Валянціна Ляўкоўская.**

Паводле яе слоў, такая задача пастаўленая перад галіной і замацаваная ў дакуменце «Комплекс мер арганізацыйна-эканамічнага і прававога характару па развіцці і эфектыўным функцыянаванні сферы бытавых паслуг на 2014 год», зацверджаным намеснікам прэм'ер-міністра Пятром Пракаповічам.

Згодна з дакументам, на вёсцы тэмп росту аб'ёмаў паслуг у 2014 годзе павінен скласці 102%. Для параўнання, у 2013 годзе тэмп росту бытавых паслуг па краіне склаў 104,9%, на вёсцы — 101,1%.

Сярод задач на 2014 год — адкрыццё не менш чым 420 аб'ектаў бытавога абслугоўвання насельніцтва.

«У комплексе мер прадугледжаны ўсе мерапрыемствы па выхадзе прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання на бясстратную працу, безумоўнае выкананне сацыяльных стандартаў, рэгіянальных праграм развіцця, далейшае рэфармаванне прадпрыемстваў шляхам іх далучэння да стабільна працуючых. Асноўная задача — гэта поўнае задавальненне патрэб спажыўцоў», — сказала Ляўкоўская.

*М.Носава, БелаПАН.*




Масленіца ў Глыбокім.

*Фота Ул. Скрабатуна.*

# Перамога Глыбоцкіх міні- футбалістаў

**У Глыбоцкай раённай дзіцяча-юнацкай спартовай школе 23 лютага праходзіў традыцыйны міжгародны турнір па міні-футболу. У ім прымалі ўдзел каманды Браслаўскага, Докшыцкага, Шумілінскага Верхнядзвінскага раёнаў і дзве каманды з Глыбокага.**

Турнір праводзіўся аддзеламі адукацыі, спорту і турызму Глыбоцкага і Докшыцкага райвыканкамаў у гонар свята Дня абаронцы Айчыны. Падчас урачыстага адкрыцця спаборніцтваў гучалі віншаванні ад начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Глыбоцкага райвыканкама Казіміра Хайноўскага і намесніка начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Докшыцкага райвыканкама Алены Кучыц.



Кожная з сустрэч, кожны тайм паміж камандамі праходзіў у напружанай барацьбе і надаваў балельшчыкам, глыбачанам і гасцям горада яркія і незабыўныя ўражанні.

Пераможцам турніру стала каманда Глыбокае-1. Другое месца заняла каманда Верхнядзвінскага раёна, трэцяе – каманда Докшыцкага раёна. Каманды ўзнагароджваліся адпаведнымі кубкамі, а ўдзельнікі медалямі адпаведных ступеняў.

У намінацыі «Лепшы футбаліст – " Андрэй Барэйка каманда "Прыазер'е" (Верхнядзвінскі раён).

«Лепшы бамбардзір» – Аляксандр Палачанін, каманда г.Докшыцы.

«Лепшы брамнік» – Пётр Ігнацьеў, каманда горада Глыбокае.

Прыз глядацкіх сімпатый дастаўся брамніку Шумілінскай каманды.

Да правядзення турніру прычасціліся спонсары, вялікія аматары міні-футболу: Сяменычаў М.В., цэнтр прыгажосці «Клеапатра" ЧУП МВВ, ТАА «Старт ЛТД і Філіял РУП "Віцебсккхлебпрам" Глыбоцкі хлебзавод».

*Артыкул падрыхтаваны на падставе інфармацыі інструктара-метадыста ДУ ГРФАЦ У. Бягун.*

# Каманда Глыбоцкага РАУС – срэбны прызёр чэмпіянату Віцебскай вобласці па рукапашным боі




На чэмпіянаце Віцебскай вобласці па рукапашным боі сярод УУС Віцебскага аблвыканкама, які адбыўся 13 лютага ў Віцебску, каманда Глыбоцкага РАУС у складзе Міхаіла Цынковіча і Паўла Рабікава заваявала другое месца сярод КФК 2 групы.

У спаборніцтвах удзельнічала 11 каманд.

У асабістым заліку Павел Рабікаў у вагавай катэгорыі да 70 кг стаў срэбным прызёрам, а Міхаіл Цынковіч у вагавай катэгорыі да 95 кг. атрымаў бронзавую ўзнагароду.

Сваю перамогу хлопцы прысвячаюць 600-гадоваму юбілею роднага горада.

*Яўген Самсонаў.*

# «Хто спявае – моліцца двойчы!»

■ **Алена Колтан-Клімза,**
*Фота: кс. Мікалай Ліпскі.*

У апошнія дні «Карнавалу» Лучайская парафія запрасіла ўсіх жадаючых наведаць касцёл святога Юды Тадэвуша, Апостала, каб у чарговы раз папрасіць Маці Божую Будслаўскую аб выслуханні ўсіх малітваў. (Нагадаем, што копія цудатворнага абраза вось ужо трэці месяц перыгрынуе ў Лучаі і прабудзе яшчэ да Вялікадня). Гасцямі нядзельнай Імшы быў хрысціянскі гурт «Laudans» з Мінску. Падчас літургіі прагучалі традыцыйныя спевы ў выкананні артыстаў, а вось пасля святой Імшы вернікаў чакаў канцэрт.

Назва гурта прамаўляе сама за сябе. У перакладзе з лацінскай мовы азначае «той, хто праслаўляе». Быў заснаваны калектыў 25 красавіка 2013г. Яго лідарам з'яўляецца Андрэй Лугін. Музыка выканаў песні на словы ксяндза паэта Яна Твардоўскага, у перакладзе Веранікі Лугінай. Таксама прагучалі глыбокасэнсавыя творы на словы Караля Вайтылы і беларускай паэткі Ірыны Багдановіч.





Сам Андрэй піша песні, некаторыя з іх прагучалі ў канцэрце. За невялікі час існавання гурт ужо выступіў у многіх святынях Мінска і краіны. Прымаў удзел у фестывалі хрысціянскай музыкі «Дастукацца да нябёсаў», што адбыўся ў Баранавічах. Галоўнай мэтай творчасці з'яўляецца праслаўленне Бога!

Лучайскім вернікам ужо даводзілася гасціць у сваёй парафіі многія гурты хрысціянскай музыкі. На шматлікія святы, якія арганізоўвае пробашч парафіі ксёндз Мікалай Ліпскі, вось ужо амаль 7 год запрашалі «Небасхіл», «Тэзаўрус», «Маран Ата», «Подых Духа» і некалькі парафіяльных хораў. Такія канцэрты прыходзяцца даспадобы мясцовым вернікам, але, дзякуючы інтэрнэту (Лучай мае свой сайт http://luchai.by/), прыязджаюць пілігрымы з розных мясцовасцяў. На гэты раз прыбылі вернікі аж з Гродзеншчыны – з Лідскай парафіі.

На заканчэнне свята прагучалі словы падзякі ад імя вернікаў за цудоўнае выступленне, а ксёндз пробашч перад тым, як паблагаславіць вернікаў на шчаслівую дарогу дамоў, запрасіў на наступнае свята: на Вялікдзень плануецца чарговы канцэрт знакамітага беларускага выканаўцы.

# Лукашэнка выказаў спачуванні родным Рыгора Барадуліна



**Аляксандр Лукашэнка выказаў спачуванні родным народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна ў сувязі з яго смерцю.**

«Творчасць Рыгора Барадуліна займае асаблівае месца ў айчыннай культуры. У яго вершах і паэмах знайшлі сваё адлюстраванне багаты духоўны свет народа і агульначалавечыя філасофскія і маральныя пытанні. Нездарма яны прыцягваюць увагу чытачоў розных пакаленняў», — гаворыцца ў спачуванні.

«Упэўнены, што памяць пра Рыгора Барадуліна як пра аднаго з вядомых майстроў слова захаваецца ў сэрцах аматараў беларускай літаратуры», — адзначыў Лукашэнка.

*БелТА*

## Падсвілле на старых фотаздымках, 1930-я гг.



Гэты цікавы будынак у «закапанскім стылі» – старой польскай школы – яшчэ гады тры таму існаваў ў Падсвіллі. Маглі б захаваць – ён, разам з іншымі падобнымі будынкамі ў «закапанскім стылі», надавалі і надаюць Падсвіллю надзвычай рамантычны вобраз.

У нас шмат хто любіць паразмаўляць пра развіццё турызму ў раёне. Дык чаму не скарысталі пусты будынак пад турыстычную гасцініцу, выставачную залу, ці краязнаўчы музей? А каму гэта трэба! Працей разабраць на дровы, а пра турызм мы можа падумаем пазней...

*Ул. Скрабатун.*

## Якое надвор'е было ў Глыбокім у лютым 1913 года?

### *Аб гэтым пісала газета "Наша Ніва":*

**"Ход вясны ў нашым краю.**

У Брэст-Літоўску Гродз. губ. 21 лютаго прыляцелі шпакі і жаваранкі, на прысонку затаўкліся раі камароў. У Гродзенскім павеці 21 лютаго праляцелі першыя гусі. У шавальскім павеці 21 лютаго прыляцелі шпакі і жаваранкі, пагода ясная сьнегу блізка што саўсім німа. У гарадзе **Глыбокім** 22 лютаго прыляцелі шпакі і жаваранкі. Каля Друі, дзісенскаго пав. Віл. губ. 23 лютаго праляцелі гусі і журавы. У Полацку 22 лютаго прыляцелі шпакі. У Быховскім павеці Могіл. губ. у ноч на 23 лютаго прыляцелі шпакі а 21 паявіліся веснавыя мухі".

Адзінае, што трэба не забываць, гэта – 1913 год, і 21-23 лютага па сённяшніх мерках прыпадае якраз на 6-8 сакавіка па новым стылі.

# Аргкамітэт па святкаванні перамогі пад Оршай будзе дабівацца, каб з'явілася вуліца імя Астрожскага

**Аргкамітэт па святкаванні 500-годдзя перамогі пад Оршай будзе дабівацца ад уладаў горада ўвекавечыць памяць гетмана ВКЛ князя Канстанціна Астрожскага і іншых герояў бітвы ў назвах цэнтральных вуліцаў.**

Акрамятаго, памеркаванні сябраў аргкамітэту, неабходна ўсталяваць помнік гетману. Лісты са зваротам ужо падрыхтаваныя і хутка будуць накіраваныя ў Аршанскі раённы Савет дэпутатаў.

***«Я лічу, што памяць Астрожскага павінна быць шырока ўвекавечаная і ў іншых гарадах Беларусі – у Мінску, Крычаве і іншых»,*** – распавёў сайту Рух.by намеснік старшыні аргкамітэту мастак Мікола Купава.



Па ягоных словах, міністру абароны Беларусі Юрыю Жадобіну будзе накіраваны ліст з заклікам перайменаваць Мінскую сувораўскую вайсковую вучэльню ў Мінскі вайсковы каледж імя Канстанціна Астрожскага, надаць адной з брыгад імя Астрожскага. Акрамя таго, аргкамітэт лічыць неабходным заснаваць ордэн імя гетмана.

24 траўня запланаванае правядзенне міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай 500-годдзю перамогі пад Оршай. «На канферэнцыю мы запросім навукоўцаў не толькі з Беларусі, але і з замежжа, - патлумачыў Мікола Купава.

Нацыянальны аргкамітэт па святкаванні 500-годдзя Вялікай перамогі пад Оршай быў створаны напрыканцы 2013 году. Ачоліў яго доктар гістарычных навук, прафесар Анатоль Грыцкевіч. У склад аргкамітэту ўваходзіць першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч.

Мерапрыемствы ў гонар 500-годдзя перамогі пад Оршай будуць ісці на працягу году. У іх межах адбудзецца таксама выстава Беларускага саюза мастакоў (у верасні), непасрэднае святкаванне юбілею ў Оршы і шэраг іншых мерапрыемстваў не толькі ў Беларусі, але і ў Польшчы і Літве. Да юбілею будуць таксама выдадзеныя паштоўкі, плакаты, календары.

Нагадаем, 8 верасня 1514 году 30-тысячнае войска Вялікага Княства Літоўскага разграміла 80-тысячнае войска Маскоўскай дзяржавы. 40 тысячаў маскоўцаў былі забіты, пяць тысячаў – узятыя ў палон. Перамога ў Аршанскай бітве дала магчымасць ВКЛ вярнуць захопленыя Дуброўна, Мсціслаў і Крычаў. Пасля яе на шэраг гадоў усходнія суседзі адмовіліся ад вайсковых аперацыяў супраць Вялікага Княства Літоўскага.

### *Старонкі гісторыі.*

# Браслаўскі павятовы ваенны камісарыят у 1919 г.

**Гісторыя мясцовага органа ваеннага кіравання на тэрыторыі Браслаўскага раёна пачалася 26.02.1919, калі быў утвораны Браслаўскі павятовы камісарыят па ваенных справах.**

Ваеннымі камісарамі ў 1919 г. былі В. Кішчук, М. Брылевіч, А. Машара, А. Масцюлін.

У першачарговым парадку супрацоўнікі камісарыята прыступілі да рэгістрацыі і ўліку былых афіцэраў, ваенных спецыялістаў, інструктараў, лекараў, усяго мужчынскага насельніцтва ва ўзросце ад 18 да 40 гадоў. Становішча ўскладнялася тым, што Браслаўскі павет (раней зваўся Новааляксандроўскім) знаходзіўся ў франтавой паласе, толькі ў снежні 1918 г. быў вызвалены ад нямецкіх войскаў, людзям за адсутнасцю жылых памяшканняў даводзілася туліцца нават у акопах.

Сустракаліся выпадкі, калі насельніцтва павета працу ваенкамата прымала варожа. Напрыклад, у Дрысвяцкай воласці быў скліканы сход насельніцтва, на якім знішчаны распарадчыя дакументы і спісы зарэгістраваных.

Пры камісарыяце да сакавіка 1919 г. была сфарміравана Браслаўская Савецкая рота ў колькасці 60 чалавек з мэтай нясення каравульнай службы і навучання добраахвотнікаў, для аказання садзейнічання валасным Саветам і міліцыі.

Свае функцыі камісарыяту даводзілася выконваць у складаных умовах, назіраўся недахоп колькаснага складу чырвонаармейцаў, міліцыянтаў, некамплект зброі.

У складзе камісарыята дзейнічалі ўлікова-мабілізацыйны, агітацыйна-асветніцкі аддзелы, а таксама аддзел забеспячэння і ўсеагульнага ваеннага навучання. Востра адчуваўся недахоп вопытных кадраў, якія маглі б самастойна выконваць ускладзеную на іх працу.

Улікова-мабілізацыйны аддзел пачаў дзейнічаць з 07.03.1919, займаўся прыёмам у Чырвоную Армію і рэгістрацыяй добраахвотнікаў, улікам коней і павозак. Работнікі аддзела сутыкнуліся з шэрагам сур'ёзных праблем: адмовай насельніцтва прыводзіць коней на зборныя пункты, паколькі яны патрабаваліся для саміх гаспадарак, адсутнасцю неабходных уліковых дакументаў.

Аддзел забеспячэння функцыянаваў з 01.03.1919, ведаў нарыхтоўкай харчовых запасаў, зборам узбраення для чырвонаармейцаў, адабраннем баявой зброі ў прыватных асоб.

Агітацыйна-асветніцкі аддзел быў створаны 10.03.1919 і займаўся распаўсюджаннем літаратуры, агітацыяй насельніцтва, была створана бібліятэка пры Браслаўскай Савецкай роце. Да агітатараў было недаверлівае, а ў некаторых выпадках і варожае стаўленне. Так у Слабодкаўскай воласці пабілі агітатара, у Мілашэўскай воласці сяляне не хацелі слухаць супрацоўніка ваенкамата, кажучы: «Хлеба не даяце, а ў салдаты бераце!».

Аддзел усеагульнага ваеннага навучання арганізоўваў у г. Браславе навучанне ваеннай справе па 96-ці гадзіннай праграме, спартыўныя гурткі.

Да пачатку сакавіка 1919 г., калі ў валасцях Браслаўскага павета было абвешчана ваеннае становішча ў сувязі з надыходам польскіх войскаў, цэнтр павета з 07.03.1919 перанесены ў г. Друя.

З сярэдзіны мая 1919 г. фронт наблізіўся да межаў Браслаўскага павета і праходзіў праз заходнія воласці (Відзскую, Грытунскую, Дрысвяцкую).

У пачатку жніўня 1919 г. пры камісарыяце створана камісія па барацьбе з дэзерцірствам, у абавязкі якой уваходзіла: кіраванне ўзброенымі сіламі, вылучанымі дзеля барацьбы з дэзерцірствам, пошук і затрыманне дэзерціраў на тэрыторыі павета па звестках з вайсковых частак, праверка ўсіх устаноў, расследаванне прычын уцёкаў, складанне абвінавачых матэрыялаў, палітычная работа сярод насельніцтва. З дапамогай сходаў, мітынгаў насельніцтва шырока апавяшчалася аб мерах пакарання дэзерціраў і іх сем'яў.

24.08.1919 захоплены палякамі Дрысвяцкая і Грытунская воласці. Пачалася эвакуацыя ў г. Друя.

З 46-ці супрацоўнікаў камісарыята 30 жніўня 1919 г. выехалі ў г. Сычоўку (горад размяшчаўся ў Смаленскай губерніі РСФСР) толькі 13. Да пяці гадзін вечара гэтага ж дня мост праз Дзвіну быў спалены. У Сычоўку Браслаўскі ваенкамат прыбыў 10.09.1919, дзе займаўся прывядзеннем у парадак сваіх спраў і 17.10.1919 быў канчаткова ліквідаваны.

■ **Нэля Баравік,**
*дырэктар Дзяржархіва ў г. Глыбокае*

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Інспектары таксама не дрэмлюць

**Наступіў першы месяц вясны, для рыбаловаў-аматараў настаюць і першыя абмежаванні на аматарскую лоўлю рыбы.**

З 1 сакавіка настае забарона на лоўлю шчупака ўсімі дазволенымі спосабамі лоўлі.

Грамадзяне, затрыманыя ў рыбалоўных угоддзях з асобнымі шчупака будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці ў памеры ад 10 да 50 базавых велічынь, а шкода за вылаўленую рыбу разлічваецца ў 3-х кратным памеры ці 390 тысяч за адну асобіну шчупака, плюс вага кожнай асобіны. У выпадку, калі сума прычыненай шкоды будзе перавышаць 40 базавых велічынь у стаўленні парушальніка ўзбудзяць крымінальную справу.

Ніякіх падаўжэнняў лоўлі шчупака сёлета няма, таму ўсім рыбаловам неабходна карыстацца законам, а не чуткамі пра падаўжэнне тэрміну лоўлі шчупака і не выпрабоўваць лёс.

Асобныя, прагныя да рыбалкі грамадзяне прыязджаюць на вадаёмы ўвечары, ставяць жарліцы на шчупака і ловяць яго ноччу, але інспектары таксама не дрэмлюць і першыя «ластаўкі» ўжо ёсць. Толькі за першыя 2 дні сакавіка ў вобласці за незаконную здабычу шчупака прыцягнута да адказнасці больш 20 грамадзян, не выключэнне і Глыбоцкі раён.

**За першыя 2 дні сакавіка ў вобласці за незаконную здабычу шчупака прыцягнута да адказнасці больш 20 грамадзян.**

Міжрайінспекцыя нагадвае, што з 1 красавіка забараняецца ўсякая лоўля рыбы з лёду. У выпадку выяўлення фактаў лоўлі рыбы з лёду ў красавіку месяцы, дзеянні парушальніка будуць разглядацца як здабыча рыбы забароненым спосабам, што цягне адміністрацыйную адказнасць у выглядзе штрафу ад 10 да 50 базавых велічынь, з канфіскацыяй або без канфіскацыі прылад рыбалоўства, а гэтак жа пакрыццём шкоды за незаконна вылаўленую рыбу ў трохкратным памеры. З красавіка месяца лоўля рыбы дазваляецца толькі з берага, адной вудай ці спінінгам, абсталяваным адным кручком, Любы заход у ваду разглядаецца, як парушэнне правіл рыбалоўства і цягне адказнасць ад 10 да 50 базавых велічынь.

Таму, супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі звяртаюцца да рыбаловаў-аматараў не спакушаць свой лёс і не парушаць Правілы рыбалоўства, да таго ж вясновы лёд вельмі не надзейны і Вы рызыкуеце сваім жыццём.

Смеццевыя звалкі на лёдзе, на берагах вадаёмаў - гэта, на жаль, наша рэальнасць. Людзі не думаюць пра будучыню, дзе сядзяць, там і гадзяць, але быўшы затрыманымі інспектарамі, слёзна запэўніваюць, што гэта зрабілі не яны, а так было. Але мы ж усе разумныя, пісьменныя і, напэўна, нават выхаваныя, вазьміце і прыбярыце смецце з лёду або на беразе, зрабіце маленькую добрую справу, і вам стане прыемней.

Працягваецца сезон нарыхтоўкі дроў насельніцтвам і драўніны арганізацыямі. Кантроль за законнасцю нарыхтоўкі драўніны - гэта адно з кірункаў у працы міжрайінспекцыі і гэтаму надаецца адмысловая ўвага ў працы. Пры любой рубцы лесу павінны быць дазваленчыя дакументы, на жаль, яшчэ знаходзяцца грамадзяне і арганізацыі, якія не лічаць неабходнасцю абцяжарваць сябе іх афармленнем.

Так, 25 лютага 2014 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі за незаконную высечку больш 2 тысяч дрэў розных парод без дазваленчых дакументаў, агульным аб'ёмам 456 м.куб. ва ўрочышчы Скураты Глыбоцкага раёна, прыцягнута да адказнасці замежнае прадпрыемства «СІСТЭКА-Дзвіна». Міжрайінспекцыяй на юрыдычную асобу накладзены штраф у памеры 6 млн. 500 тысяч рублёў і прад'яўлены ўрон у памеры 131 млн. рублёў.

Усяго за 2 месяцы бягучага года ў парушальнікаў канфіскавана больш за 500 м.куб. незаконна нарыхтаванай драўніны. Па ўсіх пытаннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 2-86-70 ці маб.: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# Мужчына тараніў на аўтамабілі латвійска-беларускую мяжу

**Мужчына спрабаваў праравацца праз латвійска-беларускую мяжу на «АўдзіА6», паведамілі ў прэс-цэнтры Дзяржпагранкамітэта.**

Кіроўца аўтамабіля, не скончыўшы ўсе працэдуры афармлення перасячэння мяжы на пункце пропуску Сілене (Латвія), разагнаўся на сваёй машыне да вялікай хуткасці і накіраваўся ў бок беларускага пункта пропуску Урбаны. Дзяжурны гэтага пункта своечасова паспеў паставіць адмысловую прыладу для прымусовага спынення.

Мужчына заўважыў гэта і быў вымушаны спыніць аўтамабіль.

Мужчына быў затрыманы беларускімі памежнікамі. Высветлілася, што гэта грамадзянін Беларусі. У яго машыне ніякіх забароненых да правозу прадметаў выяўлена не было. Аўтамабіль знаходзіцца на стаянцы для канфіскаваных машын. З парушальнікам праводзіцца разбіральніцтва.

Прычына яго ўчынку пакуль незразумелая.

*БелТА.*

# Медыкі заклікаюць вакцынавацца ад віруса папіломы чалавека, які выклікае анкалагічныя захворванні

**Беларускія медыкі заклікаюць вакцынавацца ад віруса папіломы чалавека (ВПЧ ).**

Галоўны пазаштатны дзіцячы гінеколаг Міністэрства аховы здароўя Аксана Кудзіна адзначыла на прэс-канферэнцыі 25 лютага ў Мінску, што вакцынацыя ад ВПЧ з'яўляецца эфектыўнай прафілактыкай раку шыйкі маткі. Перадаецца вірус палавым і кантактным шляхам. У другім выпадку, як правіла, ад маці да дзіцяці падчас родаў, кармлення грудзьмі і догляду.

Па словах Кудзінай, ідэальны варыянт – вакцынацыя ад ВПЧ за 1,5 года да пачатку палавога жыцця, або ва ўзросце 9—12 гадоў. Аднак і ў старэйшым веку прышчэпка будзе эфектыўнай. Кудзіна адзначыла, што ў Беларусі вакцына ёсць ва ўсіх рэгіёнах краіны ў дзяржаўных і прыватных медустановах. Вакцынацыя праводзіцца толькі на платнай аснове. Кошт вакцыны складае ад 785 да 1 млн. 300 тыс. рублёў за дозу. Неабходна прышчапіцца тройчы. У Беларусі ад ВПЧ, паводле розных дадзеных, штогод Вакцынуюцца не больш за тысячу чалавек.

Акрамя раку шыйкі маткі, вакцынацыя ад ВПЧ засцерагае ад раку горла, анальнай вобласці, адзначыў дацэнт кафедры акушэрства, гінекалогіі і рэпрадуктыўнага здароўя БелМАПА Дзмітрый Бур'як. Такім чынам, сказаў ён, варта прывіваць і хлопчыкаў, і дзяўчынак. Паводле яго слоў, 20-30 % жанчын з'яўляюцца носьбітамі ВПЧ, і складана сказаць, у каго ў выніку здарыцца анкалагічнае захворванне.

*БелаПАН.*

# Цягнік "Мінск-Кіеў" больш не будзе спыняцца на мяжы

**З сённяшняга дня памежнае афармленне пасажыраў будзе адбывацца ў Мінску і Кіеве.**

Пра гэта Еўрарадыё расказаў прэс-сакратар Памежнага камітэта Аляксандр Цішчанка:

*"Сёння мы праводзім першае афармленне цягніка "Мінск - Кіеў". З сённяшняга дня памежнае афармленне яго пасажыраў будзе адбывацца ў Мінску і Кіеве, без начнога прыпынку на мяжы"*

Паводле яго словаў, пераход да гэтага быў запланаваны даўно і ніяк не звязаны з украінскімі падзеямі апошніх месяцаў. На дадзены момант абстаноўка на беларуска-ўкраінскай мяжы спакойная, беларускія памежнікі ўзаемадзейнічаюць з украінскімі.

Фірмовы цягнік "Мінск – Кіеў "Белы бусел" адпраўляецца з Мінска ўвечары і прыбывае ва ўкраінскую сталіцу раніцай наступнага дня. Дагэтуль ён спыняўся на мяжы прыкладна а 2-й гадзіне ночы для памежнага і мытнага афармлення пасажыраў, што прыносіла ім дадатковыя нязручнасці — працэдуры на абедзвюх межах займалі прыкладна 1,5 гадзіны.





# У Беларусі на 9,4% павышаны тарыфы на паслугі паштовай сувязі

У Беларусі 1 сакавіка на 9,4% павялічыліся тарыфы на паслугі паштовай сувязі, што аказваюцца фізічным і юрыдычным асобам. Адпаведнае рашэнне зацверджана пастановай Міністэрства эканомікі Беларусі ад 11 лютага 2014 года № 9, апублікаванай на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.

Тарыф для фізічных асоб на перасылку паштовых картак, простых лістоў і бандэроляў (масай да 20 грамаў) павышаецца да 2.100 рублёў з улікам падатку на дададзены кошт, для юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў — да 1.750 рублёў.

*Марына Носава, БелаПАН.*

# У Беларусі на 1000 мужчын прыпадае 1151 жанчына

**Прычым у гарадах і пасёлках гарадскога тыпу на 1000 мужчын прыпадае 1166 жанчын, у сельскіх населеных пунктах – 1102 жанчыны.**

Паводле папярэдніх даных дэмаграфічнай статыстыкі, на пачатак гэтага года ў Беларусі налічваецца 5,1 млн жанчын, або 53,5 працэнта ад агульнай колькасці насельніцтва. У гарадах і пасёлках гарадскога тыпу пражываюць 77,3 працэнта жанчын, у сельскіх населеных пунктах - 22,7 працэнта.

Сярод гарадскога насельніцтва колькасць мужчын перавышае колькасць жанчын ва ўзросце да 30 гадоў, сярод сельскага насельніцтва - да 58 гадоў. Найбольшая гендарная дыспрапорцыя назіраецца ва ўзроставых групах пажылога ўзросту. Колькасць жанчын ва ўзросце 60-69 гадоў на 1000 мужчын у гарадах і пасёлках гарадскога тыпу складае 1484 чалавекі, у сельскіх населеных пунктах - 1320 чалавек, а ва ўзросце 70 гадоў і старэйшых колькасць жанчын перавышае колькасць мужчын у гарадах і пасёлках гарадскога тыпу ў 2,3 раза, у сельскіх населеных пунктах - у 2,5 раза.

Паводле ацэнкі ПРААН, натуральнай розніцай у чаканай працягласці жыцця мужчын і жанчын прынята лічыць 5 гадоў. У Беларусі захоўваецца значная розніца ў працягласці жыцця мужчын і жанчын, якая на працягу апошніх двух дзесяцігоддзяў перавышае больш чым у два разы натуральную і складае 10-12 гадоў.

На пачатак 2013 года сярэдні ўзрост жанчын у Беларусі склаў 42,2 года, у вясковых жанчын сярэдні ўзрост - 47,5 года, у гарадскіх жанчын .

*БелТА.*

